МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

№1 (118)
студзень 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ЦІ ДАПАМОГУЦЬ БЕЛАРУСІ ЭМІГРАНТЫ?

Ці ёсць эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял у беларускай дыяспары і што трэба рабіць, каб уключыць яго ў рашэнне праблем Беларусі на дадзеным этапе?

*Працяг на стар. 5*

### БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДЫ Ў ІРКУЦКУ

Іркуцк – сапраўдны беларускі горад. Нічога, што ён знаходзіцца больш за 6 тысяч кіламетраў ад Беларусі. Сёлета асабіста ўпэўніцца ў гэтым змог Зміцер Вайцюшкевіч. Іркуцкія беларусы запрасілі яго ў госці на Каляды.

*Працяг на стар. 4*

### ДЗЯСЯТЫ НУМАР АЛЬМАНАХА “СКАРЫНІЧ”

У новым “Скарынічы” публікуюцца матэрыялы, прысвечаныя ўгодкам М.Багдановіча, Ул.Караткевіча, Б.Тарашкевіча і М.Улашчыка. Друкуюцца архіўныя сведчанні пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, пра эміграцыю — БНР 1920-х гадоў.

*Працяг на стар. 8*

### БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДЫ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Беларусы з розных куточкаў штатаў Нью-Ёрк і Нью-Джэрсі сабраліся 8 студзеня ў Кафедральным саборы Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, каб разам адсвяткаваць Каляды.

*Працяг на стар. 6*

НАВІНЫ

## Калядкі беларусаў Польшчы ў Гарадку




Традыцыйнае для беларусаў Польшчы святкаванне Калядак прайшло 20 студзеня ў мястэчку Гарадок на Беласточчыне.

Мясцовы Дом Культуры сабраў пад дзве сотні гледачоў і ўдзельнікаў святочнага канцэрту. Мясцовыя фальклорныя калектывы выступілі з праграмай калядных песень. Спецыяльным госцем з Беларусі на канцэрце быў Зміцер Вайцюшкевіч.

*“Наша Ніва”*

НАВІНЫ МГА “ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

## 660 СТАРОНАК, ПРЫСВЕЧАНЫХ ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЕ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

У серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” выйшла кніга беларускага эміграцыйнага даследчыка Лявона Юрэвіча “Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні”. Гэта збор матэрыялаў, прысвечаных эпісталярнай спадчыне паваеннай эміграцыі. У кнізе змешчаныя як публікаваныя раней у розных перыёдыках тэксты, так і зусім новыя матэрыялы,якіяпрадстаўляюць знаходкі з архіваў беларускай эміграцыі, пераважна маладаступныя метрапольным даследчыкам.

На думку рэдактара кнігі, кандыдата гістарычных навук Наталлі Гардзіенкі, галоўная каштоўнасць выдання ў тым, што гэта, бадай што, першая спроба рознабакова разгледзець эміграцыйныя эпісталяры як крыніцу звестак па гісторыі, літаратуры, штодзённасці. Сур’ёзных працаў, прысвечаных гэтай праблематыцы, да гэтай пары не было.

“Іншая каштоўнасць кнігі палягае ў публікацыі вялікай колькасці арыгінальных лістоў, раней невядомых ні гісторыкам, ні літаратуразнаўцам, – гаворыць Наталля Гардзіенка. – Тут прадстаўленая шырокая геаграфія карэспандэнтаў, якая ахоплівае ці не ўсе беларускія асяродкі паваен-

➲

най эміграцыі, закранаюцца разнастайныя праблемы, вядомыя і невядомыя ў метраполіі”.

Шматлікія лісты беларусаў з розных краінаў, знойдзеныя, апрацаваныя і змешчаныя ў кнізе, дазваляюць прадставіць не толькі адметнасці інтэлектуальнага жыцця беларускай інтэлігенцыі на Захадзе, але і паказаць штодзённасць шараговых эмігрантаў.

Найбольшую цікавасць, напэўна, уяўляюць тэксты, што друкуюцца ўпершыню. Да прыкладу, ліставанне Кастуся Акулы ў сувязі з падрыхтоўкай і выданнем двух найбуйнейшых ягоных твораў – рамана “Змагарныя дарогі” і трылогіі “Гараватка”. На думку Наталлі Гардзіенкі, праз гэтыя эпісталярыі “можна крыху па-іншаму паглядзець і на асобу Кастуся Акулы і ягоных карэспандэнтаў, і на літаратурную “кухню”, і на асаблівасці міжасабовых дачыненняў на эміграцыі”.

Безумоўна, цікавым для многіх будзе раздзел кнігі “Трэба жыць, як набяжыць”: праўдзівая біяграфія амерыканскіх гадоў Наталлі Арсенневай”, дзе змешчаны абраныя лісты Наталлі Арсенневай сваёй сяброўцы Яніне Каханоўскай. Лісты дасланы з Рочэстэра, куды Арсеннева з мужам была вымушана пераехаць з Нью-Ёрка ў 1967 г. “У гэты перыяд адзінай сувяззю паэткі з беларускім жыццём сталася лістоўная”, – адзначае Лявон Юрэвіч.




Вось як характарызуе даследчык гэтую перапіску: “Лісты, дасланыя з Рочэстара, выразна асабістыя, побытавыя; напісаныя да блізкага сябра, яны не маюць ніякіх табуяваных тэмаў: смерць родных, хваробы, сямейныя складанасці, фінансавыя, настрой — усё знайшло месца ў гэтым ліставанні і ўсё вельмі важна для разумення Наталлі Арсенневай як чалавека, для разумення ейнага працяглага – 30-ці гадовага – жыцця ў невялічкім правінцыйным гарадку”.

Сярод іншых герояў кнігі – Юрка Віцьбіч, Антон Адамовіч, Кастусь Акула, Уладзімір Дудзіцкі, Уладзімір Клішэвіч, Янка Чарапук-Змагар і шмат іншых цікавых асобаў з інтэлектуальнай прасторы беларускай эміграцыі.

У кнізе Лявона Юрэвіча знойдзецца шмат новай інфармацыі да біяграфіяў розных эміграцыйных і не толькі эміграцыйных дзеячаў. Такім чынам, “Шматгалосы эпісталярыум”, бадай, нельга назваць кнігай выключна эміграцыйнай тэматыкі, хутчэй гэтае выданне добра сведчыць пра цесную ўзаемасувязь эміграцыйнай і метрапольнай інтэлектуальнай прасторы.

***

**Шматгалосы эпісталярыум : гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні / Лявон Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 660 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 20).**

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

НАВІНЫ

# НОВЫ ГОД І КАЛЯДЫ Ў ТАРОНТА

У Беларускім грамадска-культурным цэнтры Таронта 8 студзеня адбылася навагодняя ялінка для дзетак.

Зладзілі свята ўдзельнікі спеўнага гурта “Яваровы людзі” пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай. Яны паказалі дзіцячы варыянт навагодняга фолк-мюзікла “Дружная капэла” па матывах казкі Сержука Вітушкі, пагулялі з дзеткамі ў гульні, а Дзядуля Мароз са Снягуркай прывезлі цэлы воз падарункаў. І вядома ж, не абышлося без карагодаў, падарункаў і салодкага стала з рознымі прысмакамі...



*Падчас навагодняй ялінкі для дзетак*

Дарослыя мелі магчымасць паглядзець фолк-мюзікл ад гурта “Яваровы людзі” ў навагоднюю ноч.

На стары Новы год “Яваровы людзі” таксама падрыхтавалі адмысловую святочную праграму. Усе, хто завітаў 14 студзеня ў Беларускі цэнтр у Таронта, атрымалі магчымасць навучыцца танчыць беларускія народныя танцы. Госці мерапрыемства разам з артыстамі гурта “Яваровы людзі” развучылі “Кракавяк”, “Свінні ў рэпу”, “Ойру”, “Матлёт”, “Падэспань”, “Грачанікі”, “Цяцерку”, “Штэрн-польку”, “Базар”, “Млын” ды іншыя беларускія танцы. Удзельнікі свята таксама спявалі беларускія песні, гулялі ў гульні.

За вечар натамiліся так, што беларускую дыскатэку, прадугледжаную праграмай вечара, многія ўжо не асілілі, хаця знайшліся самыя стойкія і адплясвалі амаль да паўночы.

*Паводле javarovy-ludzi.livejournal.com*

# БЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАВА Ў НЬЮ-ЁРКУ

Беларускія мастакі дабраліся да Новага Свету. 27 студзеня ў адной з галерэяў у Нью-Ёрку на Манхэтане адбылося адкрыццё выставы, на якой прадстаўлены творы дзясятка беларускіх мастакоў.

Выстава называецца “Sounds of silence: Art against dictatorship” (“Гукі маўчання: Мастацтва супраць дыктатуры”). Бяруць удзел мастакі Марына Напрушкіна, Лена Сулкоўская, Сяргей Шабохін, Яўген Шатко, Алесь Пушкін, Аляксандр Камароў, Алег Юшко і арт-група FAU. Куратар выставы - Вольга Капенкіна.

Па словах Алеся Пушкіна, на жаль, большасць мастакоў на адкрыццё выставы не трапіла, бо на такое далёкае падарожжа няма сродкаў.

Беларуская выстава ў Нью-Ёрку будзе працаваць да 10 сакавіка.

*Паводле “Радыё Рацыя”*

# ЛЯВОН ЮРЭВІЧ: “ЛІСТЫ ЗАЎСЁДЫ ЦІКАВЫЯ. ПЫТАННЕ, ШТО ВЫ Ў ІХ ШУКАЕЦЕ І ШТО ЗНАХОДЗІЦЕ”

**У серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” выйшла кніга даследчыка Лявона Юрэвіча “Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні”. З нагоды выдання кнігі аўтар распавядае пра адметныя рысы эміграцыйнага ліставання, свайго ўлюбёнага аўтара эпісталярыяў ды складанасці падчас працы над кнігай.**

**- Спадар Лявон, чым Вы можаце патлумачыць, што кніжных публікацый беларускага эміграцыйнага ліставання на сёння не так шмат. Ці толькі маладаступнасць гэтых тэкстаў для даследчыкаў з’яўляецца прычынай такога становішча?**

- Публікацый пра эміграцыю наагул няшмат. Калі казаць пра кніжныя выданні, пераважаюць зборы-зборнікі твораў, “укладзеныя” збольшага на падставе ранейшых эміграцыйных выданняў. Радуючыся кожнаму выданню, нельга ўсё ж не адзначыць, што гэта працей ды і хутчэй, як прадзірацца праз нерасчытанае і неразабранае. У гэтым мо і прычына адсутнасці падобных публікацый, бо не толькі ў яблычным горадзе ды ў Скарынаўцы архівы; нямала ёсць і ў Мінску. Часам незацікаўленасць укладальнікаў ледзь да роспачы не даводзіць. Выйшаў вось новы том Лукаша Калюгі. Добра? Несумненна. Але ён паўтарае папярэдняе выданне, а як мінімум за гэты час двойчы было надрукавана невядомае апавяданне пісьменніка – у часопісе “Спадчына” і ў “Запісах БІНІМ”. Яго ў кнізе няма.

**- Што асабіста Вас натхніла на стварэнне такой кнігі?**

- Гэта ў пісьменнікаў натхненне. А ў архівістаў проста праца: напісанае мусіць быць выдрукавана. Выдрукаванае захоўваецца, не напісанае.

**- Колькі часу заняло напісанне кнігі? Ці сутыкаліся з нейкімі складанасцямі падчас працы над кнігай?**

- Кніга складаецца з раздзелаў, якія не толькі пісаліся адмыслова, але і што былі апублікаваныя раней, у розных выданнях, “Запісах БІНІМ” або “ARCHE”. Так што атрымалася расцягнутая ў часе. І яшчэ можна было цягнуць далей і далей: тэма бясконцая. А складанасць – почыркі. Друкаркі мала хто меў, а почыркі былі, як у Міколы Абрамчыка ці Антона Адамовіча – смерць архівісту.

**- Ці можна казаць пра нейкія адметныя рысы, уласцівыя менавіта эміграцыйным эпісталярыям у параўнанні з метрапольнымі? Ці можаце вызначыць найбольш цікавыя для Вас працы, прысвечаныя метрапольнаму ліставанню або эпісталярыям наогул?**

- Хутчэй, магчыма, трэба казаць не пра адметныя рысы лістоў, а пра спецыфіку публікацый – тут ёсць адрозненні, якія палягаюць у скаротах, заменах імёнаў ініцыяламі etc. Што датычыцца працаў, прысвечаных эпісталярыям, дык, на жаль, не ведаю ніводнай беларускай, але вельмі спадзяюся, што проста не там глядзеў.

**- Як Вы ацэньваеце стан захаванасці эпісталярнай спадчыны беларускіх эмігрантаў? Наколькі актуальная праблема захаванасці архіваў або страчаных архіваў?**

- Пра гэта нямала й пісалася, і гаварылася. Страчана багата, страчваецца штодзённа – калі адыходзяць старыя эмігранты, а спадкаемцы часта-густа выкідаюць паперы. Што можам – робім: збіраем, захоўваем, намагаемся публікаваць.

**- У сваёй кнізе Вы публікуеце багата лістоў са збораў Юркі Віцьбіча, Кастуся Акулы, іншых беларускіх інтэлектуалаў на эміграцыі. Як Вы лічыце, ці было ліставанне на эміграцыі абавязковай і неад’емнай часткай жыцця творцы, або ёсць прыклады, калі інтэлектуалы ліставаліся мала і неахвотна? Ад чаго гэта залежала?**

- Залежала найперш ад характару чалавека. Янка Юхнавец, напрыклад, амаль не пісаў лістоў, абмяжоўваўся кароткімі паштовымі карткамі: атрымаў, буду, прынясу. Калі Вітаўт Тумаш меў вельмі вялікае ліставанне, да чаго вымагала пасада старшыні БІНІМа, дык лісты Янкі Станкевіча трапляюцца даволі рэдка: выглядае, быў больш навукоўцам-самотнікам.

**- З кнігі можна зрабіць выснову, што Юрка Віцьбіч з’яўляецца ці не ўлюбёным аўтарам эпісталярыяў для Вас. Ці гэта сапраўды так? Чым, на Вашу думку, можна патлумачыць феномен Юркі Віцьбіча як своеасаблівага цэнтра эміграцыйнага ліставання? Ці справа зноў жа звязаная са ступенню захаванасці архіваў?**

- Постаццю Віцьбіча зацікавіўся яшчэ падчас навучання ў аспірантуры АН Інстытута літаратуры як аўтара гістарычнай прозы. Потым, ужо ў ЗША, пашчасціла знайсці і падрыхтаваць да друку ягоныя “Антыбальшавіцкія паўстаньні”. Так што ён улюбёны для мяне з розных бакоў. Сапраўды, засталося немалое ліставанне (хоць пра добрую захаванасць таксама казаць не выпадае: не аднойчы лісты былі ў вадзе), але галоўнае, што Віцьбіч як чалавек і як пісьменнік робіць гэтае ліставанне надзвычай цікавым. Не параўнаць, скажам, з лістамі Уладзіміра Сядуры.

**- Вы скарыстоўваеце ў сваёй кнізе архівы БІНІМа і Скарынаўскай бібліятэкі ў Лондане. Якія іншыя зборы ліставання на сёння найбольш для Вас цікавыя і вартыя, на Вашую думку, апрацоўкі і публікацыі?**

- Лісты заўсёды цікавыя: пытанне, што вы ў іх шукаеце і што знаходзіце.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



***Лявон Юрэвіч***

*Нарадзіўся 30 чэрвеня 1965 г. у Мінску. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1990), вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі (1990 – 1993). У 1993 г. пераехаў у ЗША. Працуе ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Мае навуковыя ступені магістра філалогіі і магістра бібліятэчнай справы. Даследуе беларускую культуру і літаратуру на эміграцыі.*

*Укладальнік і рэдактар кніг: “Францішак Скарына: жыццё і дзейнасць” (Мінск, 1995), “Архіўная кніга” (Нью-Ёрк, 1997), “Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі” (Нью-Ёрк, 1999).*

*Аўтар кніг: “Жыцьцё пад агнём: Партрэт беларускага ваеначальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі” (Мінск, 1999), “Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы” (Мінск, 1999), “Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай моладзі” (Мінск, 2001), “Літаратурны рух на эміграцыі” (Мінск, 2002), “Мэмуары на эміграцыі” (Мінск: Бібліятэка Бацькаўшчыны, 2005), “Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў “Бацькаўшчына” й “Беларус” (1947 – 2000)” (Мінск: Бібліятэка Бацькаўшчыны, 2006).*

# БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДЫ Ў ІРКУЦКУ

Іркуцк – сапраўдны беларускі горад. Нічога, што ён знаходзіцца больш за 6 тысяч кіламетраў ад Беларусі. Беларускі ён не паводле геаграфічнай прыналежнасці, а па сваім духу. Так сталася дзякуючы імпэту Алега Рудакова і ўсяго актыву Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага.

Сёлета асабіста ўпэўніцца ў гэтым змог Зміцер Вайцюшкевіч. Іркуцкія беларусы запрасілі Змітра ў госці на Каляды. Гэтае свята ІТБК ладзіць ужо 15-ы раз і па традыцыі запрашае кагосьці з беларускіх артыстаў.

“Уражанні самыя лепшыя. Нават выязджаць з Іркуцка не хацелася, – распавёў Зміцер Вайцюшкевіч. – Прыемна здзівілі мясцовыя дзяўчаты. Яны не толькі вельмі прыгожыя, але яшчэ і беларускімі справамі займаюцца: стараюцца пашыраць уплыў суполкі ў рэгіёне, беларускую мову вывучаюць, ткуць, вышываюць. Прычым робяць гэта вельмі ўважліва, з сэнсам, не проста турыстычны прадукт. Я нават не вытрымаў і замовіў сабе кашулю. Я заўжды зайздросціў тым, у каго ёсць сапраўдныя беларускія кашулі, саматканыя, з вышыўкай. У мяне толькі ўкраінская была, і вось я замовіў сабе беларускую ў Іркуцку”.

Зміцер прыехаў у Іркуцк 6 студзеня. Яго сустрэлі сябры ІТБК і адразу ж павялі горад паказваць. У якасці беларускамоўнага гіда выступіла старшыня Іркуцкага гарадскога аддзялення ІТБК Алена Сіпакова. Увечары ў той жа дзень адбылася сустрэча на сядзібе таварыства. Зміцер пазнаёміўся з усім актывам. Размаўлялі пра Беларусь. Усіх цікавіла, што новага ў краіне, ці будзе лепей, як пераадолець праблемы.

“Актыў мне вельмі спадабаўся, – шчыра прызнаўся Зміцер Вайцюшкевіч. – Дзяўчаты вельмі прыгожыя. Я ганарыўся, што ў нас нават там такія дзяўчаты прыгожыя”.

Увечары 7 студзеня ў Іркуцкай абласной філармоніі адбылося свята “Беларускія Каляды”.

Святочную праграму распачаў старшыня таварыства Алег Рудакоў, ён павітаў усіх прысутных ды павіншаваў са святамі.

Потым беларускія аўтэнтычныя песні спявалі іркуцкія фальклорныя гурты “Крывічы” і “Ленушка”, якія дзейнічаюць пры ІТБК. За імі на сцэну выйшаў Зміцер Вайцюшкевіч. Па яго словах, зала была поўная. Канцэрт прыйшлося весці на дзвюх мовах, бо былі не толькі беларусы, але і бураты, і рускія.

“Канцэрт прайшоў вельмі добра, мяне доўга не хацелі адпускаць са сцэны. Спяваў усё, што ў галаву прыходзіла, расказваў гісторыі паміж песнямі, як і на беларускіх канцэртах. Адчуваецца, што такое свята таварыства ладзіць далёка не першы раз і яно карыстаецца папулярнасцю”, – расказаў спявак.



Спявае гурт “Крывічы”

Пасля канцэрту пачалося калядаванне.

“Казу вадзілі, і Дзед быў, і Механоша, усё, як мае быць. Нават з Мядзведзем барукаліся. Было насычана і неяк па-каляднаму прыемна”, – падзяліўся ўражаннямі Зміцер Вайцюшкевіч.

Завершылася свята беларускімі побытавымі танцамі, якія праходзілі ў холе філармоніі. Навучыцца танчыць беларускія “Польку” ды “Ойру” мог кожны ахвотны, майстроў па беларускіх танцах у Іркуцкім таварыстве беларускай культуры хапае.

“Іркуцкая суполка – вельмі моцная, – выказаў меркаванне Зміцер Вайцюшкевіч. – Канешне, усё залежыць ад галавы, і Алег Рудакоў у гэтым сэнсе – малайчына! Я быў вельмі прыемна ўражаны арганізаванасцю, насычанасцю праграмы. Шмат чаго яны маглі б і не рабіць, да прыкладу, не вазіць мяне на Байкал, не вадзіць па горадзе, а яны зрабілі. Вельмі спадабаўся актыў суполкі. Вялікі дзякуй Алегу Рудакову і ўсяму актыву, поспехаў ім!”

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*
*Фота Мікіты Дабрыніна, irk.ru*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў лютым: **Арсеня Ліса, Леаніда Лыча, Змітра Гаўрусіка** (Беларусь), **Аркадзя Крупеньку, Міколу Нікалаева** (Расія), **Васіля Астаповіча** (Украіна).

Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх год жыцця, нязгаснага аптымізму, натхнення і плёну ў працы.

*Управа*
*МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*



# ЦІ ДАПАМОГУЦЬ БЕЛАРУСІ ЭМІГРАНТЫ?

**Ці ёсць эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял у беларускай дыяспары і што трэба рабіць, каб уключыць яго ў рашэнне праблем Беларусі на дадзеным этапе? Адказы на гэтыя пытанні высвятляла карэспандэнт газеты "Аргументы и факты в Беларуси".**

"За мяжой, па розных ацэнках, пражывае каля 3 мільёнаў беларусаў. І, думаю, у наяўнасці эканамічнага, інтэлектуальнага патэнцыялу ў фактычна траціны беларускай нацыі, сумнявацца не даводзіцца, – распавяла "АиФ" кіраўнік міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская. – Дыяспара ўжо не раз аказвала нам падтрымку: велізарнай была дапамога беларусаў замежжа пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі – гэта тысячы тон гуманітарнай дапамогі ад беларускіх арганізацый ЗША, Канады, аздараўленне дзяцей за мяжой, дапамога дзіцячым дамам беларусамі Вялікабрытаніі і інш. Нагадаем і аб садзейнічанні ў выданні беларускіх кніг, адраджэнні гісторыка-культурнай спадчыны, у наладжванні эканамічных сувязяў Беларусі з іншымі краінамі і г.д. Але супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай не можа быць аднабаковым працэсам. Беларусі трэба працаваць з дыяспарай не кропкава, а сістэмна.

Падтрымка сваіх дыяспар пастаўлена на дзяржаўны ўзровень ва ўсіх краінах, якія мяжуюць з Беларуссю, у нас жа распрацоўка закона і дзяржпраграмы аб дыяспары цягнецца вось ужо 10 гадоў. У выніку многія аб'яднанні беларусаў пакінутыя сам-насам са сваімі праблемамі. А іх не мала: для захавання сваёй культуры патрэбныя школы, курсы, мясцовыя газеты. Таму і ідзе такімі тэмпамі асіміляцыя беларусаў. Самы яркі прыклад: з 1991 па 2001 гг. у Расіі знікла паўмільёна беларусаў. Не, яны не памерлі і не з'ехалі, яны проста перасталі лічыць сябе беларусамі".

Трывожную тэндэнцыю пацвердзіў "АиФ" і Віктар Кавалеўскі, старшыня беларускага аб'яднання ў Паўднёвай Аўстраліі: "У беларускай дыяспары ў Аўстраліі ў прадстаўнікоў пасляваеннай хвалі эміграцыі быў немалы патэнцыял. Пасля іх адыходу і прыезду эмігрантаў 90-х гадоў усё практычна знікла: новая эміграцыя цікавіцца ў асноўным толькі сваім жыццём".

### Блізкая далёкая Амерыка

Адна з самых вялікіх і дзейных беларускіх дыяспар была ў ЗША. Пасляваенныя эмігранты стварылі ўласнае нацыянальна-культурнае асяроддзе, заснавалі цэрквы, выдавецтва. Ці могуць нашчадкі тых беларусаў дапамагчы Беларусі на дадзеным этапе развіцця?

"Эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял у беларускай дыяспары ў ЗША, бясспрэчна, ёсць, – лічыць вядомы дзеяч дыяспары Ян Запруднік. – Паказчык гэтага – публікацыі Нью-Ёркскага Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва, якія ў апошнія гады друкуюцца ў Мінску. Нядаўна выйшаў 34-ы том "Запісаў БІНІМ". Шмат дзяцей беларусаў, якія эмігравалі ў ЗША ў 40-50 гадах мінулага стагоддзя, скончылі тут універсітэты, каледжы і сёння працуюць спецыялістамі ў розных галінах навукі, прамысловасці, культуры, спорту, ва ўрадавых установах. Вельмі важным рэсурсам гэтай часткі дыяспары з'яўляюцца кантакты з амерыканскімі палітычнымі і дзелавымі коламі. Гэтыя беларуска-амерыканскія спецыялісты добра азнаёмленыя з падыходамі па наладжванні сувязей у дзелавых сферах. Ёсць і бізнесоўцы, і фінансісты беларускага паходжання. Новыя эмігранты з Беларусі – тыя, што прыбылі пасля развалу СССР і з незалежнай Беларусі, таксама папоўнілі эканамічны і інтэлектуальны ўзровень беларускай дыяспары".

Але галоўная перашкода для выкарыстання гэтага патэнцыялу, на думку Яна Запрудніка, у двухбаковым напружанні паміж Мінскам і Вашынгтонам: "Амерыканска-беларускія адносіны з кожным годам пагаршаюцца. Масавыя арышты пасля выбараў, заявы аб катаваннях у беларускіх турмах толькі ўзмацняюць адмоўнае стаўленне з боку ўладаў ЗША. У такой атмасферы проста немагчыма выкарыстоўваць у поўную сілу патэнцыял дыяспары. Вядома, ёсць асобныя выпадкі кантактаў, не звязаных з палітыкай (беларускае шампанскае, цукеркі ў крамах), але гэта далёка ад таго, што магло б быць, калі б не было ідэйна-палітычнага канфлікту паміж краінамі. Пры сённяшніх умовах узяць, напрыклад, крэдыт у банку і наладзіць з беларускім бокам экспарт-імпарт або турыстычнае агенцтва вельмі складана з-за гэтай самай наэлектрызаванай атмасферы".

Самым эфектыўным крокам для ўключэння замежнай дыяспары ў рашэнне праблем Беларусі, на думку Яна Запрудніка, было б рашэнне беларускіх уладаў аб вызваленні палітвязняў.

### Апошні фарпост?

Ганна Сурмач, старшыня галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання дапоўніла, што ў новай хвалі эміграцыі беларусаў у ЗША таксама ёсць добры патэнцыял. "Новыя эмігранты – гэта інтэлігенцыя, адукаваная моладзь, якая вырасла ў незалежнай Беларусі. Яны працей і хутчэй адаптуюцца, пераймаюць вопыт жыцця ў свабоднай краіне, асэнсоўваюць гісторыю свайго народа. З іх маглі б атрымацца выдатныя кадры для будучай Беларусі. Вядома, Беларусь з задавальненнем выкарыстала б сёння беларускую дыяспару, каб знайсці інвестараў, гатовых укладваць у краіну. Але ці будзе гэта выкарыстана ў інтарэсах беларускага народа сёння? Гэтае пытанне – галоўная перашкода для поўнамаштабнай дапамогі беларускай дыяспары сваёй далёкай Беларусі".

Па словах Ганны Сурмач, сёння галоўная дапамога дыяспары павінна выяўляцца ў тым, каб захоўваць і развіваць тое беларускае асяроддзе, якое было створана папярэднікамі: "У сённяшнім глабальным свеце гэта вельмі важна – присутнасць нацыі ў розных краінах, гэта яе фарпосты і плацдармы ў свеце. У 1991 годзе Васіль Быкаў на Кангрэсе беларусістаў сказаў: "Перспектыва выжывання нацыі, густа засыпанай радыёнуклідамі, абсалютна імглістая... У гэтых вірах спадчыннікам нашай нацыянальнай сутнасці можа стаць беларуская дыяспара, дзе можа захавацца наш нацыянальна-культурны генафонд".

### Афіцыйна

На запыт "АиФ" у МЗС, чаму так доўга не прымаецца Закон аб суайчынніках і што рабіць, каб задзейнічаць патэнцыял беларускай дыяспары на карысць Беларусі, у знешнепалітычным ведамстве нам адказалі, што "Закон аб суайчынніках" – не адкрыты дакумент, а прыцягненнем беларусаў з-за мяжы ў асноўным займаецца МУС. Між тым у нашай Праграме нацыянальнай бяспекі прызнана, што "асноўнай знешняй крыніцай пагрозы нацыянальнай бяспецы ў сацыяльнай сферы з'яўляецца паслабленне нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларускай дыяспары, істотнае ўшчамленне законных правоў і інтарэсаў суайчыннікаў".

Іншы праграмны дакумент – Праграма па дэмаграфічнай бяспецы – таксама дэкларуе, што "Беларусь павінна перайсці да мэтавага прынцыпу арганізацыі міграцыі – вяртання суайчыннікаў, якія пражываюць за мяжой".

*Працяг на стар. 6*

# У ЯРАСЛАЎЛІ АДЗНАЧЫЛІ БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДЫ

Жыхары і госці Яраслаўля адзначылі традыцыйнае беларускае свята Каляды. Арганізавалі святкаванне супрацоўнікі Музея Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі. 4, 5 і 6 студзеня кожны наведнік музея змог паспрабаваць сябе ў якасці калядоўшчыка: хтосьці стаў сімвалам дастатку – казой, самы вясёлы ператварыўся ў Мядзведзя. Калядным Дзедам выбралі самага артыстычна наведніка. Ну а самая прыгожая дзяўчына атрымала ганаровае права насіць галоўны калядны сімвал – Зорку.

У завяршэнне вечара кожны наведнік сваімі рукамі зрабіў эксклюзіўны падарунак – сапраўдную Птушку шчасця – Белага Бусла. Бо народная прыкмета гаворыць: у доме, дзе пасяліўся Белы Бусел, паселіцца шчасце.

*Прэс-служба Музея Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі*



ТЭМА

## ЦІ ДАПАМОГУЦЬ БЕЛАРУСІ ЭМІГРАНТЫ?

*Працяг. Пачатак на стар. 5*

### Лічбы

Па дадзеных даследчыка Наталлі Гардзіенка, традыцыйна лічылася, што ў Аўстраліі жыве 10 тыс. беларусаў, але перапіс 2002 года засведчыў, што беларусамі запісаліся толькі 483 чалавекі. У Расіі, згодна перапісу 2010 года, пражывае 521 тыс. беларусаў, ва Украіне – 275 тыс., Казахстане – 111 тыс., краінах Балтыі – 153 тыс., у ЗША - 600 тыс. (па падліках пачатку 1990-х). Лічыцца, што ў Канадзе пражывае 110 тыс. беларусаў, але, па звестках беларускай амбасады ў Канадзе, згодна перапісу 2001 года, беларусаў было зафіксавана 5115 чалавек. У Вялікабрытаніі, па розных ацэнках, пражывае ад 5 да 20 тыс. беларусаў, у Аргенціне – 7 тыс., у Бельгіі – каля 2 тыс., у Польшчы, паводле апошняга перапісу, беларусамі запісалася каля 50 тыс. чал., у Чэхіі – менш за 10 тыс.

*"Аргументы и факты в Беларуси"*

### ПАДЗЯКА

**Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырую падзяку Алесю Карповічу (Рыга) за ахвяраванне на дзейнасць "Бацькаўшчыны".**

## БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДЫ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Беларусы з розных куточкаў штатаў Нью-Ёрк і Нью-Джэрсі сабраліся 8 студзеня ў Кафедральным саборы Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, каб разам адсвяткаваць Каляды. У мерапрыемстве ўдзельнічала каля 100 чалавек, з іх каля 30 дзетак.

Святкаванне пачалося з Архіерэйскай Літургіі, якую ўзначаліў епіскап Віленскі і Нью-Ёркскі Серафім.

"Для мяне вельмі прыемна адзначыць тое, што шмат дзетак сур'ёзна падрыхтаваліся да службы Божай ды актыўна ўдзельнічалі ў ёй. Спявалі малітвы ды калядкі, больш дарослыя спавядаліся, і шмат хто з дзетак прычасціўся на Літургіі. Гэта вельмі цешыць дарослых, іх бацькоў і ўсіх нас", – адзначыў епіскап Серафім.

Пасля Літургіі святкаванне працягвалася каля ялінкі у парафіяльнай зале.

Пра падрыхтоўку да свята распавяла адна з яго арганізатарак Галіна Падлескі: "Святочную праграму рыхтавалі ўсе разам: і прадстаўнікі Беларускай Аўтакефальнай царквы, і Бруклінскага аддзела БАЗА. Я ўпэўнена, што ўсіх пералічыць немагчыма. Упрыгожвалі залу і ўсталявалі ялінку Аляксей Маркевіч, Наталля Федарэнка, Людміла Цярпінская, Шура Лістоўская, Вісіль Кузьменка, прадстаўленне пра нараджэнне Ісуса рыхтавалі мы з Андрусём і дзецьмі. Андрусь Падлескі таксама падрыхтаваў святочную праграму з беларускімі Каляднымі відэакліпамі і падрыхтаваў караоке вядомых калядных спеваў, якія дэманстравалі на экране на ўсю залу. Спевы Калядак – Ала Орса Рамана, на піяніна грала Ульяна Дарагакупец. У ролі святога Мікалая быў Сяржук Капытка, пачастунак усім гасцям рыхтавалі Таццяна Красоўская і Шура Лістоўская, падарункі для дзетак падрыхтавала Ніна Цяліца, відэазапісам на свяце займаўся Віктар Дудараў. Многія іншыя ўзялі ўдзел, але ўсіхназваць немагчыма і, баюся, што я забылася назваць шмат імёнаў. Гэта сапраўды было зроблена разам добраахвотна і з радасцю, а не пад кіраўніцтвам нейкай пэўнай адной асобы".

Дзеці з бацькамі вадзілі карагоды вокал ялінкі, спявалі Калядкі. Маленькія беларусы прадэманстравалі Дзеду Марозу сваё майстэрства ў чытанні вершаў ды спяванні песень. У выніку без падарункаў са свята не сышоў ніхто!

"Усё было вельмі цікава, пачастунак смачны, атмасфера цёплая. Для дзяцей, бадай што, самае цікавае – гэта гукаць Святога Міколу і з ім гутарыць, і атрымаць падарунак – штогод дзеці гэтага вельмі чакаюць, – а потым вадзіць з ім карагоды вакол ялінкі і спяваць. Дарослым спадабалася ўсё: і Калядкі, і дзіцячае прадстаўленне, і музыка. Было весела, змястоўна, цікава, непасрэдна, шмат музыкі, усмешак і роднай мовы", – падзялілася сваімі ўражаннямі ад свята Галіна Падлескі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## НА РАСТВО Ў ПРАЗЕ МАЛІЛІСЯ І КАЛЯДАВАЛІ

На свята Раства Хрыстовага 25 снежня ў пражскай царкве святых Кузьмы і Дзям'яна адбылася святочная Літургія, якую адслужыў уніяцкі святар айцец Андрэй Абламейка.

Пасля набажэнства ў прыцаркоўнай тэатральнай залі святы Мікалай раздаў прысутным дзецям падарункі і перадаў іх праз сваякоў тым дзецям, што па розных прычынах не прысутнічалі на святце.

Адбылася таксама сяброўская гасціна з гарбатай і пачастункамі.

Навіной сёлетняга адзначэння Калядаў у Празе стала сапраўдная Каляда. У якасці музычнага суправаджэння была выкарыстана старажытная беларуская дуда.

У часе Літургіі і ў часе Каляды гучалі аўтэнтычныя беларускія спевы.

*"Радыё Свабода"*

## СЯРОД НАЙЛЕПШЫХ ШКОЛ ПАДЛЯШША – БЕЛАРУСКІЯ ЛІЦЭІ

Апублікаваны новы рэйтынг сярэдніх навучальных установаў Падляшскага ваяводства (Польшча). У дзясятцы найлепшых – другі агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім.

Ён размясціўся на дзявятай пазіцыі. Як адзначае дырэктар ліцэя Андрэй Сцепанюк, гэта вельмі важная ацэнка працы навучальнай установы.

"Гэта даволі моцна дапамагае нам у рэкламаванні школы. Калі гаварыць пра агульную інфармацыю пра школу, то трэба падкрэсліць, што мы 9-я школа ў Падляшскім ваяводстве. Думаю, што гэта вельмі добры вынік, – гаворыць Андрэй Сцепанюк. – Мы заўсёды падкрэсліваем, што, несумненна, у Бельскім павеце мы найлепшая школа і адна з найлепшых у ваяводстве. Гэта рэальная ацэнка таго, што робіцца ў школе".

На 12-ай пазіцыі ў рэйтынгу – другі агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Андрэй Сцепанюк адзначае важнасць таго, што сярод найлепшых школ Падляшскага ваяводства – беларускія ліцэі: "Паглядзіце, уся Польшча бачыць, што адзін ліцэй называецца "з беларускай мовай навучання" , а другі – "з дадатковым навучаннем беларускай мовы". Думаю, што гэта даволі добрая рэклама беларускасці тут, у Польшчы".

На думку Андрэя Сцепанюка сакрэт поспеху ў супрацы настаўнікаў, адкрытых да новага, і навучэнцаў, якія нечага хочуць дасягнуць у жыцці.

*Паводле "Радыё Рацыя"*

## Калядна-навагодняя сустрэча беларусаў у Гданьску

Беларуская грамада Гданьска 14 студзеня сабралася на традыцыйную Калядна-навагоднюю сустрэчу. Арганізатарам выступіла Беларускае культурнае таварыства "Хатка".

Па словах яго старшыні доктара Лены Глагоўскай, кожны год збіраюцца беларусы, якія жывуць над морам, бо гэта практычна адзіная нагода сустрэцца разам.

"Штогод збіраемся, падсумоўваем мінулы год, тое, што зрабілі, размаўляем пра планы на будучыню, – гаворыць Лена Глагоўская. – Гэта таксама абмен думкамі, успамінамі. Успамінаем традыцыю Калядаў. Успамінаем памерлых, тых, хто ад нас адышоў".

Лена Глагоўская распавяла, што традыцыйна да калядна-навагодняй сустрэчы рыхтуюцца розныя стравы, таксама куцця, каталікі прыносяць аплаткі. Удзельнікі сустрэчы слухаюць і спяваюць калядкі, прыгадваюць калядныя ўспаміны з дзяцінства.

*Паводле "Радыё Рацыя"*

IN MEMORIAM

## ВАНКАРЭМ НІКІФАРОВІЧ (1934-2011)



У ЗША памёр беларускі літаратуразнаўца,журналіст, перакладчык Ванкарэм Нікіфаровіч. Ён памёр тры месяцы таму, але вядома пра гэта стала нядаўна.

Ванкарэм Нікіфаровіч нарадзіўся 15 лістапада 1934 г. у Мінску ў сям'і настаўніка.

У 1957 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ; працаваў рэдактарам мастацкай літаратуры Дзяржвыдавецтва БССР, працаваў на тэлебачанні. За аповед у адной з праграм пра планы Святланы Алексіевіч напісаць кнігу "Цынкавыя хлопчыкі" быў звольнены з тэлебачання.

У 1983 г. уладкаваўся памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы Тэатра-студыі кінаакцёра пры Дзяржкіно БССР, з 1987 г. — кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Сябра СП СССР з 1972 г.

Перакладаў з балгарскай мовы, быў узнагароджаны балгарскім ордэнам Кірылы і Мяфодзія (адзін з чатырох кавалераў ордэна ў Беларусі), аўтар некалькіх сцэнарыяў дакументальных і тэлевізійных фільмаў: "Помнікі не маўчаць" (1971), "Дом Макаравых" (1975), "Такая ў зямлі песня" (1978), "Паэзія Янкі Купалы" (1982), "Верыць сэрцам у Перамогу" (1985), "Паэзія Рыгора Барадуліна" (1988), "Лінія лесу" (пра С.Станюту, 1990), інсцэніровак для Беларускага тэлебачання па творах А.Куляшова, І.Мележа, А.Кулакоўскага, І.Пташнікава, Р.Барадуліна. Перакладаў на рускую мову В.Быкава.

У 1993 г. эміграваў у ЗША, браў удзел у жыцці беларускай грамады ў Чыкага, пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы, укладальнік зборніка драматургіі беларускай эміграцыі "Урачыстасць у садзе", выдадзенага ў 2007 годзе Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў межах кніжнай серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны".

*"Наша Ніва"*

***

**Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні ўсім, хто ведаў Ванкарэма Нікіфаровіча, з нагоды цяжкай страты. Вечная памяць!**

## ДЗЯСЯТЫ НУМАР АЛЬМАНАХА “СКАРЫНІЧ”

У Маскве выйшаў дзясяты нумар літаратурна-навуковага альманаха “Скарыніч”.




У новым “Скарынічы” публікуюцца матэрыялы, прысвечаныя ўгодкам М.Багдановіча, Ул.Караткевіча, Б.Тарашкевіча і М.Улашчыка. Прыводзяцца малавядомыя старонкі спадчыны М.Лабойкі, І.Грыгаровіча, І.Насовіча, П.Шпілеўскага, В.Ластоўскага, Я.Хлябцэвіча, Ул. Дубоўкі.

Упершыню друкуюцца ўспаміны пра Б.Тарашкевіча яго другой жонкі Н.Палянскай, лагерныя ўспаміны з “Хронікі” і лісты М.Улашчыка, матэрыялы Багдановічавых чытанняў (1991 г.), старонкі з спадчыны Ул. Дубоўкі, Ул. Караткевіча.

Працягваецца тэма прысутнасці Беларусі і беларуса ў расійскай, маскоўскай прасторы, уключна з таемным лёсам крыжа Еўфрасінні Полацкай. Асобным раздзелам “З Масквы гледзячы” вылучаны шматвяковая прысутнасць, пачуванне беларусаў у Маскве.

У раздзеле “Беларусь учора і сёння” аналізуюцца міжнародныя сувязі Беларусі, у тым ліку ў гістарычным кантэксце, пачынаючы з беларуска-літоўскай мінуўшчыны. Абмяркоўваюцца няпросты стан сучасных адносін з суседзямі і неабходнасць выхаду Беларусі — краіны ў геаграфічным цэнтры Еўропы, на перакрыжаванні геапалітычных рухаў на кантыненце — на шырокую дарогу шматбаковай еўрапейскай інтэграцыі.

У раздзеле скарыназнаўчых матэрыялаў, “Scoriniana”, увазе чытачоў прапануюцца нататкі І.Лабойкі, І.Грыгаровіча, П.Шпілеўскага, І.Насовіча, чый след у станаўленні новай беларускай літаратуры дасюль па-належнаму не асэнсаваны і не ацэнены.

Друкуюцца архіўныя сведчанні пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, пра эміграцыю — БНР 1920-х гадоў. Матэрыялы раздзелу “Varia” — яшчэ адно, малавядомае сведчанне пакручастага, драматычнага шляху беларусаў да ўласнае дзяржаўнасці.

*“Наша Ніва”*



## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛЮТЫ 2012 ГОДА

1 лютага – 85 год таму, у 1927-м, нарадзілася Юзэфа Найдзюк (дзяв. Брэчка; 1927-2005), удзельніца нацыянальна-вызваленчага руху, сябар СБМ, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

2 лютага – 80 год таму, у 1932-м, нарадзілася Людміла Махнюк (дзяв. Каліноўская; 1932-2003), дзеяч эміграцыі ў ЗША.

4 лютага – 55 год таму, у 1957-м, памёр Браніслаў Ямант (1886-1957), мастак, педагог.

11 лютага – 205 год таму, у 1807-м, нарадзіўся Напалеон Орда (1807-1883), піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

14 лютага – 100 год таму, у 1907-м, нарадзіўся Алесь Звонак (1907-1996), пісьменнік, перакладчык, вязень сталінскіх турмаў.

14 лютага – 75 год таму, у 1937-м, нарадзіўся Міхась Стральцоў (1937-1987), пісьменнік, крытык, перакладчык.

17 лютага – 175 год таму, у 1837-м, нарадзіўся Канстанцін Ельскі (1837-1896), падарожнік, заолаг, географ, геолаг.

20 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы.

23 лютага – 105 год таму, у 1907-м, нарадзіўся Станіслаў Станкевіч (1907-1980), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

24 лютага – 110 год таму, у 1902-м, нарадзіўся Янка Геніюш (1902-1979), грамадскі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГу.

24 лютага – 90 год таму, у 1922-м, памёр Ядвігін Ш. (сапр. Антон Лявіцкі, 1869-1922), пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч.

24 лютага – 40 год таму, у 1972-м, памёр Алесь Вініцкі (1891-1972), грамадска-культурны дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

26 лютага – 80 год таму, у 1932-м, выйшаў першы нумар газеты “Літаратура і мастацтва”.

27 лютага – 345 год таму, у 1667-м, нарадзілася Людвіка Караліна Радзівіл (1667-1695), асветніца, мецэнатка.

**Беларусы ў свеце**
№1 (118), студзень 2012

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030,
Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27